Przesyłka opłacona ryczałtem

Nr 39 (93) Аўторак, 17-га Лістапада 1925 г. м. Вільня Год II.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць адзін раз у тыдзень

Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 80 гр.
" " " 3 " 2 зл. 40 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno; ul. Niemiecka 1 „Hotel Sokołowskiego“ pokój Nr 23. Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз.
Рэдактар прымае ад 11 — 1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак на 1 стр. —20 гр.
за радок нонпарэля у тэксьце – 25 гр.
на апош. стр.—15 гр.

## РАДА і БАЛЬШАВІКІ.

Усьлед за віленскай комунізуючай беларускай „прэсай“, якая амаль ня ў кожным нумары стараецца „капнуць“ чым-небудзь Часовую Беларускую Раду, і менскія бальшавіцкія газэты стараюцца падтрымаць „едіный“ фронт з тутэйшымі сваімі падгалоскамі. І ад часу да часу Радзе дастаецца ад менскіх „таварышоў“ добрая порцыя звычайнай брахні і вулічнай лаянкі.

Перад намі № 241 менскай бальшавіцкай газэты „Звезда“. Перш-наперш газэта гэтак хваліць нашых пасло́ў: „здаровы нацыянальны рух беларускага народу ў Польшчы, якім кіруюць соймавы беларускі клюб і Работніцка-Сялянская Грамада, зьяўляецца бельмам на воку польскага ўраду“. (Як бачым бальшавікі ня робяць *ніякай рожніцы паміж Бел. Пасольскім Клюбам і выразна бальшавіцкай Сялянска-Работніцкай Грамадой Тарашкевіча!*)

Зусім зразумелы гэты комплімэнт з боку бальшавікоў пасольскаму клюбу і „Грамадзе“, бо-ж гэтыя інстытуцыі „вядуць“ тых, каго яны здалеюць абаламуціць, пад „высокую“ руку Комінтэрна; яны кажуць народу, што ў Саўдэпіі: рай, свабода, брацтва, не жыцьцё—а маліна!

А вось Раду, дык „Звезда“ характэрызуе вось як: „створаны п. Паўлюкевічам камітэт па загаду польскага ўраду *маніцца захапіць беларускі нацыянальны рух.* (Вось чаго, як вагня баяцца бальшавікі!) і скіраваць яго ў напрамку карысным для Польшчы, на шлях сваеаблічнай нацыянальнай „зубатоўшчыны“. Роля і ўслугі, якія Паўлюкевіч аказвае польскаму ўраду добра вядомы беларускаму насяленьню Заходняе Беларусі. Дзеля гэтага ўсе спробы гэтага дзеяча захапіць кіраўніцтва беларускім рухам сустракаюць энэргічны адпор“.

Таксама, як пахвала для паслоў зразумелая і гэтая лаянка па адрасу Рады. Бо Рада робіць як раз наадварот: не баламуціць народ, а *стараецца адчыніць яму вочы на праўду.* Рада паказвае на прыкладах з жыцьця ў Бальшэвіі, што фактычна творыцца ў гэтым „раю“, як там жывецца запраўды. Яна фактамі даказвае, якое там пекла і што грамадзянам так абрыдла агідная бальшавіцкая няволя, што людзі, ня гледзячы на страшэнны тэррор і масавыя расстрэлы, хапаюцца за аружжа і ідуць з хатаў у лясы, каб змагацца за сваё вызваленьне ад комуны. Рада не ашуківае свайго народу, а кажа праўду, а праўда ведама, вочы коле.

Зразумела і тая сыстэматычная траўля брахнёй і лаянкай, якую вядуць бязупынна віленскія комунізуючыя газэты проці Рады. Яны бачаць, што з кожным днём усё больш і больш трацяць грунт пад нагамі. Праўда робіць сваё: беларускі народ усё больш знаёміцца з фактамі запраўднага жыцьця ў савецкім „раю“ і не дае больш вадзіць сябе за нос. Цьвярозы голас перасьцярогі, які падае Рада, знаходзіць усё больш водгукаў у шырокіх народных масах. А ў рэзультаце гэтага – дасюлешнія верхаводы нацыянальнага беларускага руху ў Польшчы, якія хацелі б увесь наш край аддаць у лапы Г.П.У., усё больш і больш трацяць свае ўплывы на беларускі народ. Увесь іх дасюлешні пасьпех будаваўся на спрытным хаваньні праўды, на дэмагогіі, гульне на нездаволеньні народу тым, што і ў нас яшчэ ня ўсё ідзе як трэба. Аднак, калі беларускі народ, маючы факты аб жудасным жыцьці ў Саўдэпіі, пачынае рабіць параўнаньні, дык аказваецца, што бальшавіцкі „рай“ зусім траціць усякую спакусу. Пасьля гэтага параўнаньня кожны кажа: ад гэткага „раю“ няхай Бог нас крые! Усё гэтае прыводзіць да таго, што народ перастае верыць усім зазываццелям да гэтага раю і пачынае глядзець на гэтых зазываццеляў не надта прыхільна.

Ну дык ведама, што ёсьць за што ненавідзець Раду. Трэба яе лаяць і старацца абчарніць перад народам. Але, ці ўдасца? Мы пэўны, што-не, *бо за Раду стаіць праўда!* Вось чым тлумачыцца тое, што „Звезда“ з пенай на вуснах накідваецца на Раду і яе старшыню. Бальшавікі бачаць ў Радзе вялікую небясьпеку для сябе, бо шлях Рады—не шлях гучных, але ашуканчых абяцанак, не шлях абаламучваньня і піханьня народу на розныя рэвалюцыйныя авантуры, а шлях—мірнага, законнага змаганьня за правы беларускага народу.

Польская конституцыя гварантуе нам нашыя нацыянальныя правы. І вось да змаганьня за зьдзейсьненьне, за правядзеньне ў жыцьцё гэтай конституцыі, але да змаганьня *легальнага* заклікае Рада. Няхай брэшуць на яе, няхай злуюць і лаюцца—Рада не сайдзе са свайго шляху. І мы бачым, што народ беларускі пачынае ўжо разумець (а гэтае, відаць, найбольш і трывожыць бальшавікоў!), што толькі гэты шлях і можа прывясьці яго да зьдзейсьненьня нацыянальных ідэалаў і палепшаньня яго лёсу.

Не авантуры і саветы, а супольны, дружны, але законны і лёяльны высілак дасьць нам магчымасьць дасягнуць сваёй мэты.

Беларусы! Гуртуйцеся вакол вашае Рады!

## Дзевятая хваля.

Саўдэпія ізноў абхвачана полымям народных паўстаньняў. Бальшавіцкая прэса перапоўнена весткамі аб забойствах комуністаў, селькораў і комсамольцаў. Украіна, Туркестан, Каўказ, Беларусь перапоўнены партызанцкімі аддзеламі, якія бязьлітасна распраўляюцца з комуністамі. На Украіне нядаўна была зроблена „чыстка“ гарадзкой міліцыі, у якой было знойдзена шмат „белагвардзейскага“ элемэнту. У Магілёве паднялі бунт проці савецкай улады чырвонаармейскія аддзелы. У Харкаве расстрэляны некалькі быўшых комуністаў, якія пасьля свайго выхаду з комуністычнае партыі, арганізавалі партызанцкі лятучы атрад.

Але ўсё гэтае-толькі сотая, тысячная частка таго, што дзеецца на ўсей вялізнай тэрыторыі С.С.Р.Р. і чаго ня можа скрыць нават савецкая прэса. Не дарма ў апошні час савецкая ўлада падняла трывогу і рашуча зьмяніла сваю палітыку ў адносінах да сваіх заходніх суседзяў. Не пачуцьцё прыязьні, а страх за сваю ўласную скуру прымусіў маскоўскіх дыктатараў зьмяніць свой ранейшы хуліганскі тон у адносінах да „буржуазнае“ Эўропы. Яны адчуваюць, што грунт пад іхнімі нагамі пачынае хістацца. Яны ўжо і самі бачаць наплыў дзевятай хвалі.

Вось чаму бальшавікі раптам зрабіліся гэткімі мягкімі і добрымі для сваіх суседзяў, забыліся аб ранейшай варожасьці, зрабіліся прыяцелямі і гатовы нават цалавацца з сваімі нядаўнімі сьмяротнымі ворагамі. Цяпер зразумела дзеля чаго савецкая прэса гэтак падхоплівае заявы польскіх дыплёматаў аб „новых прыяцельскіх адносінах“ з С.С.Р.Р. Гэтым бальшавікі хочуць аслабіць значэньне лёкарнскай конфэрэнцыі: „Глядзіце! Ня ўсе проці нас. Трэба нам толькі захацець, як ужо нашыя ранейшыя ворагі гатовы падтрымаць нас“.

Савецкая прэса з вялікім задаваленьнем перадрукоўвала артыкулы польскіх газэт у справе прыезду Чычэрына ў Варшаву. І трэба прызнаць, што ладзячы запраўды царскі прыём маскоўскаму дыктатару, у той час як Захад зусім адвярнуўся ад Саўдэпіі, а сам расійскі народ рашуча паўстае проці сваіх тыранаў, польская дыплёматыя зрабіла працу толькі на карысьць бальшавікоў.

Пасьля таго, як заходняя Эўропа заняла рашуча варожую пазыцыю ў адносінах да бальшавікоў, а апошнія капітулявалі перад ёю, Польшча таксама ня можа і не павінна заставацца ў невыразным палажэньні. Польская дыплёматыя павінна палажыць свае карты на стол і гуляць у адкрытую. Бачучы, як нашыя замежныя браты-беларусы абліваюцца крывёю ў барацьбе з праклятай комунай, мы ня можам спакойна глядзець, як у гэты самы час польская дыплёматыя ветла цісьне запэцканую крывёй нявінных ахвяр руку маскоўскага ката.

Гэткая незразумелая і ні на чым не абапёртая польская палітыка зьяўляецца толькі компромітацыяй перад культурным Захадам, якому Польшча шмат чым абавязана. Разам з тым гэткія прыяцельскія адносіны да бальшавікоў з боку *авангарднай* дзяржавы Захаду забіваюць у нашых нешчасьлівых замежных братоў апошнюю веру ў магчымасьць дапамогі культурнага Захаду ў іх барацьбе за вызваленьне з пад улады Комінтэрна.

Гэткую невыразную палітыку ў адносінах да бальшавікоў з боку польскага ўраду яшчэ можна было зразумець год-два назад, калі маскоўскія дыктатары пагражалі Польшчы наездам чырвоных ватагаў, але не цяпер, калі уся Эўропа аб'едналася, каб нанясьці апошні ўдар бандзе міжнародных паджыгацеляў і зладзеяў і калі ўнутры С.С Р.Р. усё больш падымаецца вялікая хваля народнага абурэньня, гатовая зьмясьці з зямлі ўсю бальшавіцкую нечысьць.

Зусім зразумела, што Польшча сваімі „новымі прыяцельскімі адносінамі“ ня ўстрымае разлажэньня бальшавіцкага трупа, таксама як і не перашкодзіць Заходняй Эўропе споўніць сваю гістарычную місію, свой абавязак у адносінах да сусьветнай культуры. Але, калі ад Польшчы залежыць прысьпяшыць хаця на адзін дзень немінучую для бальшавізма разьвязку, дык яна павінна зрабіць ўсё, каб апраўдаць сябе перад сусьветнай культурай і гісторыяй. Гэтага чакаюць ад яе тыя, хто з аружжам у руках паўстае проці неперанасімага чырвонага тэррора. Чакаем таксама і мы, каб у рашучы мамэнт барацьбы нашых братоў за вызваленьне Бацькаўшчыны з пад комуністычнага ярма пайсьці разам з Захадам на дапамогу ім.

## Палітычны агляд.

Міністэрскі крызіс ува Францыі быў зьліквідованы ў працягу 24-х гадзін. Гэта тлумачыцца тым, што ўрадовая большасьць у парлямэнце не нарушылася і што крызіс быў выкліканы нездаволеньнем соцыялістаў, уваўшоўшых у склад урадовай большасьці, толькі міністрам Кайо. Але гэты апошні заявіў, што ён пойдзе ў адстаўку толькі разам з усім кабінэ-

енкамата. Абвінавачываюцца яны у дыскрэдытацыі савецкай улады праз „узятачнічэства“.

У Курску адміністрацыя фабрыкі „Профінтэрн“ — (урадовая)—за растраты, падвохі і інш. у асобах упаўнамоцных (значыцца—комуністы выжшай маркі) *Гаровіца, Лінкора, Каплана* і *Бармана* (ну і ісьціныя расійцы! Рэд.) засуджаны на 5 гадоў строгай турмы, рэшта—лягчэй.

Сэкрэтары Дварэцкага, Ціханавіцкага сельсаветаў і прэдседацель Пабатовіцкага району за растрату сабраных з сялян налогаў аддаюцца пад Суд. Як піша „Звезда“ (№ 239) сяляне вельмі зацікаўлены вынікам справы. У тым-жа № „Звезда“ паведамляе аб засуджаньні на 5 гадоў вастрогу за растрату налогавых грошаў прэдсельсавета Трыховіча. (М. Слаўнае Талочынскага райну): 13 г. м. у Маскве арыштаваны А. Кошко растраціўшый 10.000 руб. грошаў Рагачоўскаго каапэратыву.

У Маскоўскім Губэрскім Судзе 31 кастрычніка разьбіралася справа аб „ответственным“ служачым „Наркомінпрода“ (значыцца шышка! Рэд.) Вячэславе Сьмірнове, па абвінавачаньню яго ў растраце 40.000 руб. (нічога сабе сумка!) Грошы гэтыя, як Сьмірноў сам прызнаўся, ён патраціў на куцежы, карты і... кабет („Праўда“ № 252).

У Віцебскім Судзе разьбіралася справа замясьціцеля народнага камісара харчовых справаў Беларусі Вільчака, абвінавачанага ў прысваеньні і растраце казённых грошаў. Вільчак прыгавораны на 8 гадоў турмы.

Вобласны Суд Грузіі прыгаварыў да расстрэлу юрысконсульта Упраўленьня Закаўкаскіх дарог Аконава за растрату 9.000 рублеў казённых грошаў.

### Барацьба з бальшавікамі.

Як бальшавікі ні хваляцца сваімі пасьпехамі сярод нацыянальнасьцяў Расіі, але, што ўлада іх усім ужо абрыдла выразна паказывае пашырэньне антыбальшавіцкага руху амаль не ў-ва ўсіх „нацыянальных“ рэспубліках.

Так у апошнія часы ў Хіве і Бухары пачалося паўстаньне басмачоў. Ужо ня першы раз яны „бунтуюцца“, але цяперака паўстаньне асабліва сільнае і шырокае. Паўстанцы пагражаюць ужо Ташкенту. У Маскве пастаноўлена прыняць усе меры дзеля „усьмірэньня“ гэтага паўстаньня, з якою мэтай „уся ўлада“ перадаецца асобнаму ваенна-рэвалюцыйнаму камітэту.

Аб беларускіх паўстанцах ужо шмат пісалася. Паўстаньне не спыняецца, ня гледзячы на тое, што ўва ўсей Беларусі пануе страшэнны тэррор. Увесь час там робяцца масавыя арышты; забіраюць сотні чалавек толькі па падазрэньню. Арышты даконваюцца як сярод мірных жыхароў, так і сярод воінскіх часьцей, дзе таксама завялася „крамола“. У Менску цяперака „працуе“ 18 асобных аддзелаў Г. П. У. пад ахранай 7 брыгад.

17 кастрычніка ў Менскім Акружным судзе закончылася справа аднаго атрада беларускіх паўстанцаў. З 18 абвінавачаных—прыгавораны: 32 да расстрэлу, 40 на вечную турму і 15 апраўданы. Прыгавар над 15 асобамі ўжо 18 б. м. быў выкананы; Г. П. У. іх расстрэляла. Пры аб'яўленьні прыгавара ў залі Суда было арыштована 18 чалавек, якіх пасадзілі ў вастрог, як „спачуваючых“ паўстанцам. У сьнежні г. г. у гэтым-жа Судзе будзе разьбірацца другая справа аб 34 паўстанцах, з атаманам Усьцюжыным на чале. У Менскай турме сядзіць блізу 1500 чалавек, з якіх — 3/4 паўстанцы. Ім пагражае „вышэйшая мера“ кары, г. зн. сьмертная казьнь.

Ня гледзячы на ўсё гэта, паўстаньне ня толькі не спыняецца, але ў апошнія часы — значна пашырылася. Паказаліся вялікшыя атрады паўстанцаў, якія кіруюцца да цэнтру Беларусі. У Бранску, сярод знаходзячыхся там чырвоных часьцей арміі пачалося было антысавецкае паўстаньне. 3 чырвоныя камандзіры і 137 чырвонаармейцаў арыштаваны Г. П. У. і вывезены ў Маскву.

Не памогуць арышты. Людзі пачынаюць прабуджацца, бо зразумелі ўжо, што былі подла абдўраны бандай зладзеяў і прахадзімцаў.

### Хто ў Саўдэпіі можа красьць бяскарна?

Даволі быць „заслужаным“ прававерным комуністам і быць „ответственным“ работнікам, г. зн. займаць „пост“ — і крадзі сабе на добрае здароўе! Вось паслухайце прыклады з Савецкага быту па іхнім газэтам: У Армавіры кіраўнікам вальцовага млына быў комуніст, нейкі Чарнышоў. Пры рэвізіі (не вобыск, не! Рэд.)—знойдзены былі „недахваткі“, г. зн. па простаму — растрата. Яго „снялі“ з пасады але... да адказнасьці не пацягнулі. На яго месца вызначылі новага комуніста — Родова. Гэты так пекна пакіраваў млыном, што яго вырабу муку забракавалі. Пры гэтым Родоў, як мягка выражаецца карэспандэнт савецкай газэты, палажыў сабе ў кішаню больш 1000 руб. Яго такжа „зьнялі“, але пад суд не аддалі. Карэспандэнт зазначае, што гэта сільна абурае сялян. („Правда“, № 235, за 14-X г. г.)

### Апошняе слова тэхнікі.

Гэткі загаловак у Віцебскай газэце зацікавіў віцебскіх грамадзян. І хоць падданыя комуністаў, гэтых найвялікшых шарлатанаў і рэклямістаў, добра ведалі, што не ўсё павінна чытаць і разумець так, як пішуць савецкія пісакі, аднак зацікавіліся: што гэта такое за „апошняе слова“ тэхнікі, якім хочуць іх ашчасьлівіць комуністы. Аказалася, што ў заметцы пад гэткім загалаўкам паведамлялася, што ў Віцебску будзе пастаўлены публічны гадзіннік, які будзе зроблены „па апошняму слову тэхнікі“. Канешна, усе з нецярплівасьцю чакалі вызначанага дня і гадзіны, калі павінен быў пачаць сваю „працу“ абяцаны гадзіннік. У гэты дзень, далёка яшчэ да 8 гадз., калі павінен быў пачуцца першы звон гадзінніка, перад баштай, на якой знаходзіўся цыфэрблат, стаў вялікі натоўп. Мінутная стрэлка ўсё бліжэй падыходзіла да мэты. Асталося тры мінуты.. дзьве... вось—толькі адна... У вакне башты, пад цыфэрблатам паказаўся нейкі ўзлахмачаны чалавек, высока над галавой падняў зялезны лом—ды—бух! ім ў вялікі звон. Гэткім чынам ён махаў 8 разоў. Гадзіннік вызваніў сваё. Нейкая пабожная старушка пераксьцілася: Божачка-ж ты мой.. Да чаго толькі не дадумаецца чалавек... А побач двое рабочых у блузах віншуючы адзін аднаго з новай „здабычай“ культуры, гутараць:

— Ну, браток, усё ў парадку...

— Але... ня чакаў я па'т, што так добра выйдзе... Вось толькі, каб гэты, што б'е ў звон не запіў... А то заместа 8 ды адбарабаніць 12... Як жа тады з работай?..

Паведамляючы аб гэтым чытачоў менскай „Звезды“ (№ 255), аўтар заметкі, нейкі Праўдзін, піша: „Сёньня, калі мы падводзім вынікі таму, чаго дапялі за 8 гадоў, павінны аднатаваць, што ў вобласьці тэхнікі мы такі далёка адсталі ад Эўропы і Амэрыкі“...

Адсталі!.. мягка сказана. Не адсталі ад Эўропы а хіба абагналі па часьці круцельства ды нахальства. У гэтым сэнсе дык пэўне-ж бальшавікі пабілі ўсякія рэкорды і дайшлі да „апошняга слова тэхнікі“.

## Яшчэ аб францускіх парлямэнтарыях.

У сваім часе мы падалі вестку аб тым, што гасьціўшыя нядаўна ў Вільні францускія парлямэнтары адведалі Часовую Беларускую Раду і мелі гадзінную конфэрэнцыю з яе сябрамі. На другі дзень пасьля гэтага, ува ўсе газэты быў пададзены комунікат аб тым, якія пытаньні абгаварываліся на гэтай конфэрэнцыі і якімі пытаньнямі нашага беларускага жыцьця найбольш цікавіліся французы. Як бы ў адказ на гэтае, у газэціне „Жыцьцё Беларуса“ № 14, усё той жа „дзелч“, які ніколі не падпісывае сваіх артыкулаў, разразіўся звычайнай для яго брахнёй і лаянкай. Мы зусім-бы не зьвярнулі ўвагі на гэтую „высока-этычную“ заметку, калі-б яна не датычылася адначасова п. п. беларускіх паслоў.

У гэтай заметцы гаворыцца наступнае:

„У нядзелю 18 кастрычніка ў Вільню прыяжджала група дэпутатаў францускага парлямэнту, каб пазнаёміцца з тутэйшымі палітычнымі згуртаваньнямі і іх паглядамі ды імкненьнямі. Нажаль *польская ўлада пазбавіла іх магчымасьці* пазнаёміцца з паглядамі і настроямі беларускага грамадзянства...“

Дык, па першае:

У склад камітэту па прыняцьцю францускіх госьцяў, у які ўваходзіў ад Час. Бел. Рады толькі адзін яе старшыня А. Паўлюкевіч, уваходзілі аўтоматычна ўсе віленскія паслы і сэнатары. Значыцца беларускія паслы *мелі поўную магчымасьць „знаёміць“* французаў з настроямі аж праз увесь час іх пабыту ў Вільні.

Па другое:

П.п. паслы фактычна і „знаёмілі“ французаў яшчэ ў Варшаве, дзе п. п. Тарашкевіч і Балін прыпаднясьлі францускім парлямэнтарыям кіну брашурак „Аб белым тэрроры ў Польшчы“. Праўда, на гэтае французы, як кажуць, зазначылі, што гэткія самыя брашуркі былі ім дадзены яшчэ два гады таму назад... маскоўскімі комуністамі... Французы папыталіся п. п. паслоў. ці няма чаго больш цікавага?

Што-ж да таго, што, ня гледзячы на „знаёмленьне“ пасламі французаў, апошнія ўсёж-ткі не „дагадаліся“ адведаць у Вільні „надпасла“ А. Луцкевіча, дык з іх боку гэта бязумоўна ня толькі безтактнасьць, але нават праступленьне?!... Але, прычым тут Рада? Апроч таго трэба зазначыць, што хаця францускія парлямэнтары амаль ня ўсе былі соцыялістамі, аднакжа яны ўсе аказаліся праконаными і шчырымі антыбальшавікамі. Яны з вялікім задаваленьнем даведаліся аб тым, што ў беларускім грамадзянстве, апрача комуністычных і комунізуючых, істнуюць яшчэ і праўдзіва дэмократычныя і выразна антыбальшавіцкія групіроўкі.

Дык можа цяпер комунізуючаму „надпаслу“ будзе ясна, што французы дапусьцілі гэткую „безтактнасьць“ не па віне *польскай улады*, а зусім такі *сьвядома*!

*Б. Б.*

P. S. Між іншым французы адведалі, апрача Рады, віленскіх пэпэсаў і прадстаўніка земляўласьнікаў п. Мэйштовіча.

# Жыцьце провінцыі.

### Дрэнныя парадкі.

(*Пошта Забрэзьзе, Валожынскага пав.*)

Ніхто ма'быць, ня чуў такой крыўды ад свайго паштавіка, як мы—забрэскія падпісчыкі беларускіх газэт. Яшчэ ў леташнім годзе некатарыя тутэйшыя сяляне сабралі па колькі грошай ды выпісалі „Грамадзкі Голас“. Аднак газэты як німа, так німа. Спраўляемся ў рэдакцыі — ці высылаецца нам газэта — высылаецца акуратна. Чаму-ж мы не дастаем газэты? Як кажуць некатарыя, дык усё абстаіць вельмі проста. Справа ў тым, што нашым паштавіком ёсьць нейкі п. Заблоцкі, асаднік з Польшчы.

Яму вось не падабаюцца беларускія газэты, і ён ужывае іх, відаць, на свае патрэбы.

Мы пытаемся ў рэдакцыі, ці можна яго за гэта пацягнуць да адказнасьці, бо нам здаецца, што так рабіць ён ня мае права.

*С.*

*Ад рэдакцыі.* Мы пэўны, што Дырэкцыя пошты ў Вільні зьверне ўвагу на „конфіскаты“ мейсцовымі кіраўнікамі паштовых аддзелаў нашай газэты.

### Час зразумець.

(*м-ка Казлоўшчына, Слонімск. пав.*).

Нарэшце і нашыя духоўныя пастыры пачалі прыслухоўвацца да голасу свайго народа і памалу ўводзяць у царкве беларускія казаньні, хаця пакуль яшчэ побач з расійскімі. Гэтак у нас, у Казлоўшчыне, бацюшка пачаў ізноў гаварыць казаньні ў нашай роднай беларускай мове. Ведама цяжка яму гэтае даецца, бо ня ведае ён яшчэ добра нашае мовы. Нажаль нашыя пастыры ўсё яшчэ стараюцца ўбіць у галавы сваіх парахвіян, што мы „ісьцінна-рускі“ народ, што беларускае мовы зусім няма, а ёсьць толькі „нарэчіе“. Але гэтае ім ня ўдаецца. Праўда некалькі чалавек з парахвіі лічаць сябе „расійцамі“, але рэшта добра ведае, што яны беларусы і ніколі не дадуць сябе абдурыць.

Няведама, ці доўга наш бацюшка будзе гаварыць гэтыя казаньня пабеларуску, бо ўжо раз ён пачынаў гаварыць іх пабеларуску і гаварыў нешта 2 месяцы, а потым пакінуў. На гэты раз маем надзею, што будзе больш сталым.

У нас, дык яшчэ так-сяк, але ў суседніх парахвіях дык айцы духоўныя аб гэтым і ня думаюць. Яны лічаць, што гэта зусім непатрэбна дзеля гэтага быдла (парахвіян). Хопіць і таго, што абедню ў нядзелю адслужаць. А няхай людзі ў царкве зажадаюць беларускага казаньня, ці напрыклад, на Каляды якую-небудзь беларускую сьвятую песьню сьпеяць, дык гэтыя „айцы“ закрычаць, ды яшчэ комуністамі і вуніятамі абзавуць. І гэтак усюды: і ў Горцы, і ў Дзятлаве, у Вензаўцы, у Явары, у Парэччы, у Войнявічах і ў самым Слоніме. Дзякаваць Богу, што ў нашым кутку няма яшчэ ні баптыстаў, ні штундыстаў.

Ой глядзіце, айцы, каб ня было дрэнна. Потым агледзіцесь, ды будзе ўжо позна. Памятайце што ў *Слоніме езуіты ня сьпяць*. Не дарма яны сабе барады і валасы доўгія на галаве паадпускалі. Тыя не палянуюцца беларускія казаньні гаварыць.

*Нехта.*

### Цяжка жывецца.

(*в. Доры, Першайскай вол., Стаўп. пав.*).

Цяжка нам бедным сялянам жыць на белым сьвеце. Зямлі маем мала, ды і з тэй карысьць ня вельмі вялікая. Аднак да зямлі мы моцна прыліпшы і ніякія сілы ня змогуць нас ад яе адарваць. Зямелька-матка наша: яна нас корміць і адзевае, а ўрэшце дае ў сабе і вечны спачынак. Адна бяда, што не хапае яе ў нас і ніхто даць нам яе ня хоча. Раздаюць яе людзям зусім чужым, каторыя самі ёю не займаюцца. А нам, адвечным гаспадарам гэтае зямелькі, прыходзіцца толькі глядзець ды сьлінкі глытаць, бачучы як іншыя карыстаюць з нашага дабра. Да таго-ж яшчэ і падаткі бяруць з нас немагчымыя. Плаці і дахадовы і маёнтковы і страхоўку і яшчэ штось там нейкае, а калі, крый Божа, здарыцца каму пагарэць, дык і страхоўка не паможа. Пачнуцца розныя сьледзтвы, цяганіна і ў канцы зьвядуць на тое, што дапамога зусім і непатрэбна. Таксама, калі чалавек мае крышку больш зямлі, дык яго замучаюць маёнтковымі падаткамі. А ніхто ня зьверне ўвагі на тое, што ў нас не такая ўжо ўраджайная зямля, каб сямью пракарміць ды яшчэ і вялікія падаткі заплаціць. Не прымаюць пад увагу, што няма чым заплаціць і калі ў срок не заплаціш падаткаў, дык накладаюць штрафы. На гэтыя штрафы

